Стройматериалы

# Системы PAROC: вне конкуренции

Необычайно жаркое лето в этом году. Однако холодные месяцы уже не за горами. И, безусловно, никому не хочется мерзнуть сырой осенью и студеной зимой. Приближающаяся "унылая пора" заставляет быть бдительными: настолько ли хорошо утеплены наши дома, как этого хотелось бы? Вопрос тепловой защиты существующих зданий одинаково актуален и для рядовых граждан, и для строительных организаций. И, в первую очередь, это связано с вопросами экономии топливно-энергетических ресурсов. Сегодня в гостях у нашей рубрики специалисты фирмы "Чарч Он" (тел.: (017) 211-20-18, 223-62-65, 226-78-44). Тема беседы — тепловая санация зданий и применение теплоизоляционных материалов PAROC.

**— Что такое санация зданий?**

— Попросту говоря, санация — это ремонт зданий. Тепловая санация, соответственно, предусматривает утепление зданий.

**—Какими критериями следует руководствоваться при выборе теплоизоляционных материалов?**

— Прежде всего необходимо обращать внимание на качество, долговечность и экологичность утепляющего материала.

**— Современный рынок строительных материалов предлагает широкий выбор теплоизоляции на различной основе. На Ваш взгляд, какие из них заслуживают большего внимания?**

— Одним из самых эффективных и технологичных методов сбережения тепла является использование материалов на основе базальтовой ваты. Такие материалы очень популярны в странах северной Европы, где зима не менее сурова, чем в нашей родной Беларуси. Привередливые скандинавы очень скрупулезно относятся к качеству приобретаемых материалов, их выбору вполне можно доверять.

**— Какие компании выпускают базальтовую теплоизоляцию?**

— Одной из ведущих европейских компаний, занимающихся производством теплоизоляционных материалов, считается компания PARTEK INSULATION AB, которая является частью концерна PARTEK-OY AB. В этом году концерну исполняется 101 год. Солидный возраст, не правда ли? Компания занимается выпуском базальтовой теплоизоляции под торговой маркой PAROC. У этой фирмы более чем сорокалетний опыт производства теплоизоляционных материалов, основанный на мощном научно-исследовательском потенциале.

**— Расскажите, пожалуйста, поподробнее о применении материалов PAROC.**

— Сперва остановимся на применении термоизоляционных систем для утепления стен с наружной стороны. Для этой цели фирма предлагает два варианта утепления — фасадное под штукатурку и вентилируемые фасады. Эти системы очень популярны в странах северной Европы. В Швеции, например, система утепления наружных стен под штукатурку (WDV-термошуба) применяется более чем на четырех миллионах квадратных метров стен. В таких системах теплоизолирующие плиты PAROC устанавливаются с внешней стороны здания, создавая оптимальные условия для сохранения и накопления тепла внешними ограждающими конструкциями, при этом создаются благоприятные условия для устойчивой диффузии водяных паров в направлении наружных поверхностей, причем эти условия сохраняются и при отрицательных температурах.

Система "Термошуба" состоит из нескольких слоев.

1. Слой теплоизоляции, который выполняет теплоизолирующую функцию и является основой для нанесения остальных слоев. Этот слой крепится с помощью клея и механически на утепляемую стену.

2. Фиксирующий и упрочняющий слой из армирующих элементов, включающих клеящие составы и армирующие сетки (ткани).

3. Окончательная декоративная отделка. Этот слой используется как слой защиты от вредных воздействий атмосферы.

Фирмой разработано несколько видов теплоизолирующих плит для различных систем "Термошуба", применяемых в Европе. Плита, применяемая в качестве основы, должна отвечать ряду чрезвычайно важных функциональных и монтажных требований, а именно — иметь высокие теплоизоляционные свойства; выполнять несущие функции, удерживая нанесенные клеевые, армирующие, грунтовочные и отделочные слои; обладать высокими гидрофобными свойствами и в то же время иметь высокие диффузионные показатели; обладать высокими огнеупорными свойствами; сохранять высокие функциональные качества на период эксплуатации здания; иметь ровную, пригодную для нанесения различных слоев, поверхность; не разрушаться в местах крепления механическими средствами; быть устойчивой к применению различных клеевых составов, в том числе содержащих алкоиды; быть удобной в работе.

Всем этим требованиям в полной мере отвечают плиты PAROC.

Вторым вариантом наружного утепления стен и одной из наиболее популярных систем является система с вентилируемым теплоизоляционным слоем и последующей защитой из специальных фасадных плит. Это так называемая система вентилируемых фасадов, или система утепления на относе.

**— Чем характеризуется эта система?**

— С экономической и экологической точек зрения это хорошо сбалансированная система, имеющая ряд замечательных качеств:

— жилые помещения и ограждающие строительные конструкции "дышат", так как есть беспрепятственная диффузия водяного пара;

— обеспечивается хорошая звукоизоляция;

— увеличивается срок эксплуатации здания;

— длительное время сохраняется прекрасный внешний вид здания;

— представляется широкое поле архитектурного творчества;

— возможно применение для любых фасадов;

— система принимает на себя температурные колебания, что позволяет защитить фасад от преждевременного старения;

— фасадная система справляется с ветровыми нагрузками.

Фирма "Чарч Он" предлагает системы "RANNILA" и "ETERNIT", которые завоевывают в нашей республике все большую популярность. Более подробно об этом — в следующем выпуске рубрики.





## СТРОЙМАТЕРИАЛЫ

| Фирма | Предложение, услуги | Цена | Телефон |
|---|---|---|---|
| Организация | Паркет (полный комплекс услуг) | Договорная | (017) 266-45-38, 266-06-57 |
| | Подвесные потолки | Договорная | |
| | Облицовка (высокое качество, в сжатые сроки) | Договорная | |
| ОфисМаркет | Стеклообои (Швеция) | От 1 у.е. | (017) 229-65-37 |
| | Панели МДФ (Германия) | Договорная | |
| | Подвесные потолки (Германия) | От 7,8 у.е. | |
| | Двери межкомнатные (Канада) | от 65 у.е. | |
| | Клеи, краски (кг), Чехия, Германия | от 1,5 у.е. | |
| | Светильники для подвесных потолков | от 2,2 у.е. | |
| Организация | Охранно-пожарные сигнализации (установка в квартирах, офисах, коттеджах, на предприятиях) | Договорная | (017) 228-02-70, 262-93-61 |
| Строймир | Двери металлические | Договорная | (017) 220-47-77 |
| Организация | Мебель пинских производителей | Договорная | (017) 278-65-65 |
| Организация | Монтируем фундаменты (весь комплекс работ) | Договорная | 544-50-88, 544-50 86 |
| КодСервис | Замки кодовые но офисы и подъезды | Договорная | (017) 230-87-12 |

## ГРУЗОПЕРЕВОЗКИ

| Фирма | Лицензия № | Марка а/м | Дальность | Цена | Тоннаж | Особенности. Тип кузова | Телефон |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| "МАНТРАНС" | АЕ1-1020 от21.07.97 по 20.07.2002. Все транспортные средства имеют санпасторта, форма оплаты любая, постоянным клиентам предоставляются скидки | МАН 14-192 | СНГ, В. Европа, РБ | от 0,18$ | до 7 т, 32 м³ | Изотерма, тент, TIR | (017) 211-58-31, 259-08-82, сотовый 8-029-276-82-21 |
| | | МАН 16-240 | | от 0,18$ | до 7 т, 33 м³ | | |
| | | Мерседес 1424 | | от 0,2$ | до 12т, 50 м³ | Тент, изотерма | |
| | | МАН 19-361 | | от 0,4$ | до 20 т, 82 м³ | Тент, TIR | |
| | | МАН 15-240 | | от 0,45$ | до 14 т, 120 м³ | Тент, фургон, TIR | |
| | | МАН | | от 0,4$ | до 20 т, 70 м³ | Рефрижератор, TIR | |
| Ч/П Пригожий | АЕ1-1765 от 20.04.98 по 2003 | ГАЗ 63 | Минск, СНГ, РП | от 0,10$ | до 2 т, 12 м³ | Металлич. фургон, санпаспорт | (017) 264-29-05 |
| | | VW | | Хорошая | до 1 т, 6 м³ | Санпаспорт, 2 места | |
| Ч/П | АЕ1-1855 от 2.04.98 по 2003 | ИВЕКО 95 г.вып. | СНГ | от 0,14$ | до 2 т, 12 м³ | Цельный, металлический, 2 места | (017) 239-48-74, 8-029.477 47-52 |
| ООО "Аклеон" | АА1-4579 от28.01.98 по 27.01.2003 | Евромашины | Минск, РБ, СНГ, Европа | Дог. | 1-20 т, 1-100м³ | Тент, металлич. фургон, TIR, CARNET | (017) 262-93-61, 253-90-56 |
| ПКОО "Поркко" | АА1-4580 от20.01.98 по 19.01.2003 | МАЗ 64229 | СНГ | 0,40$ | 20 т, 68 м³ | Тент | (017) 253-66-35, 253-98-34 |
| | | Рено-траффик | | 0,16$ | 1,5т, 8 м³ | Цельный, металлический | |
| | | Мерседес | | Хорошая | 7 т, 30 м³ | Тент | |
| Тимур | АЕ1-0208 от 26.03.96 по28.03.2001 | Мерседес | В.Европа, Балтия, СНГ, РБ | Дог. | 3-6 т, до 35 м³ | Тент, фургон, TIR | (017)256-27-24 |
| Инесса | Г-9030 от 10.10.94 по 9.10.99 | Любая | Регион любой | Дог. | От 1 до 23т | Тент, рефрижератор | (017) 286-09-91, 286-09-92 пейджер 211-00-00 аб. 80055 |
| Организация | АА1-1993 выд. 10.01.97 до 2002 | ИФА-50 | Снг, Европа, Прибалтика | Дог. | до 8т, до 43 м³ | TIR | (017) 286-88-25, пейджер 211-00-00 аб. 70613 |
| | | Ивеко4910 | Снг, Европа, Прибалтика | Дог. | 2,5т, 15м³ | | |
| АМИР | АЕ1-0775 от 14.04.97 по 13.04.2002 | Форд-Транзит | СНГ, Европа, РБ | от 0,20$ | 1-3т, 8-20м³ | TIR, прицеп, перевозим автомобили | (017) 222-23-02 |
| Беларуская Грамата | Г1-3292 от 29.05.95 по 28.05.2000 | Мерседес 814 | СНГ, Литва | от 0,15 | до1-5т, 9-28 м³ | 2 спальника | (017) 284-82-40, 243-18-18 |
| | | Люблин | | | от 1-3 т, до 20 м³ | Тент | |
| | | ЗИЛ 5301 | | | | | |
| ИП "Автоград" | АКА1-0307 от 28.09.98 до 2003, АА1-5550 от 18.05.98 до 2003 | Мерседес-310D | РБ, СНГ, Европа | Дог. | 1,5, 11 м³ | 12 пассажиров | (017) 254-72-21, 236-99-43 |
| | | VW LT-35 | РБ, СНГ, Европа | от 0,2 | 1,5т, 11 м³ | 12 пассажиров | |
| Данэкс-М | АА1-5129 от 20.03.98 по 19.03.2003 | Мерседес-407D | город, РБ, СНГ | от 0,15 | 2т, 10 м³ | Фургон | (017) 252-25-87, 252-96-79, вечером 248-96-23 |
| | | МАЗ-5337 | город, РБ, СНГ | от 0,28 | 8-15т, 21-44 м³ | Тент | |
| "МАЛЬВИНА" | АЕ5-0062 от 07.12.1995 по 2000 | МАЗ, МАН, Скания | СНГ, Европа, РБ | Дог. | от 5 до 20 т | Тенты | (01513) 2-12-72 |
| ОРГАНИЗАЦИЯ | Г-14589 от 23.08.95 по 2000 | СеперМАЗ | СНГ | Дог.(Б/Н) | 20 т, 68 и82 м³ | Тент | (017) 213-62-89 |
| Евротехтранс | Г1-6389 от 11.10.95 по 2000 | Мерседес1419 | СНГ, Европа, РБ | Дог. | 6 т, 30 м³ | Рефрижератор, TIR | (017) 236-70-61 пейджер 249-00-00 аб. 2825 |
| | | IVEKO24036 | | | 20 т, 82 м³ | Рефрижератор, пневмоTIR | |
| | | IVEKO19036 | | | 24 т, 82 м³ | Тент, пневмоTIR | |
| Ч/П | АА1-5580 от 22.05.98 пго 2003 | ИФА | СНГ, РБ | Дог. | 5т, 19 м³ | Тент | (017) 286-66-95 |
| ИНТЕРСТАЛЬ | АА1-6822 от 17.12.98 по 2003 | ЗИЛ-4331 | Минск, РБ | Дог. | до 7тон | Бортовой | (017) 210-51-17, 210-51-26, 210-51-35 |
| Ч/П | АЕ5-0859 от 10.04.98 по 2003 | МАЗ 54323 | СНГ, в. Европа, Балтия | Дог. | до 20т, 82 м³ | Тент, TIR | (8-01596) 20196, 21155 |
| Ч/П | АА1-5581 от 23.03.98 по 2003 | Мерседес-1313 | СНГ, РБ | от 0,20 | до 7т, 37 м³ | Фургон | (017) 274-76-56, 260-22-00 |
| Ч/П | АА1-6149 от 19.08.98 по 2003 | МАН14192 | СНГ, РБ | от 0,20 | 8 т, 21-35 м³ | Фургон( сан. паспорт) | (017) 238-57-24 |
| ТАУП-М | АА1-5576 от 22.05.98 по 2003 | Газель | СНГ, РБ | от 0,1 | 1,5т | Тент | (017) 285-49-69, 249-82-02 |
| БЕОР | АА1-5314 от 11.04.98 по 2003 | МАЗ | СНГ, РБ | от 0,22 | 14 т | Прицеп-площадка 12м | (8-01777) 5-09-81, 5-47-05 |
| Ч/П | АА1-3728 от 22.05.98 по 2000 | Мерседес | СНГ, РБ | Дог. | 1-3т | Фургон | (017) 235-03-01 |
| "Автоспец-электро" | АЕ1-1703 от 09.04.99 по2003 | МАЗ 54323 | СНГ, Европа, РБ | Дог. | до 20т, 82 м³ | Тент, TIR | (017) 252-55-27, 256-74-15 |
| МЕДЖЕЛ | АА1-0691 от 12.04.96 по 2001 | Газель | РБ, РФ | Дог. | 1,5т | Тент | (017) 273-99 45, 273-99-33 |
| Ч/П | АА! -4170 от17.11.97 по 200 | МАН | СНГ, РБ | от 0,18 | 7т, 32м³ | Фургон( сан. паспорт) | (017) 214-80-71, Пейджер 211000 аб.27425 |
| Ч/П | АА1-3728 по 200 | Мерседес | СНГ, РБ | Дог. | 1-3т | Фургон | (017) 235 03-01 |
| Ч/П | АА1-7160 до 2004 | VW, ГАЗ | СНГ, РБ, Минск | от10 | 1-2т, 5-12м³ | Метал. фургон, сан. паспорт(2 места) | (017) 264-29-05 |
| Ч/П | АА1-6090 от17.08.98 по 2003 | VW | СНГ, РБ, Минск | Дог. | 1 т | Цельнометаллический | (017) 223-23-51 |
| Ч/П | АА1-1318 jот 03.04.99 по 2004 | Мерседес 207 | Литва, СНГ | Дог. | до 2т, 9м³ | Наличие литовской визы | (017) 240-50-52, 219-44-43 |
| Ч/П | АА1-5580 от 22.05.98 по 2003 | 207 | СНГ, РБ, РП, Минск | Дог. | | Фургон | (017) 285-35-70 |
| ЗАО "АРКО" | АЕ-50672 до 2000 г. | МАЗ+МА39758 | СНГ, в. Европа | Дог. | 82 м³ | Пневмо | (8-01561) 45-533 |
| | | КАМАЗ+ОДА39786 | СНГ | | 19 т | Рефрижератор | (8-01561) 44-424 |

**Адрас рэдакцыі:**
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: (017) 229-28-71.
Тэл./факс рэкламнага аддзела: 229-29-04.
E-mail : nv@irex.minsk.by
**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае.
Рэгістрацыйнае пасведчанне №246. Нумар газеты надрукаваны з дыяпазітываў у ПП "Мэджык". Адрас: г. Мінск, вул. В. Харужай, 13. Падпісаны ў друк у 21.00. Фармат А-2. Тыраж: суботні — 61050 экз., у другія дні — 55000 экз. Заказ №935